ISSN 5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!

# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў

**ZVAZAJ – Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans.** ***Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2***

***U. S. Post: Assn of Byelorussian-American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N. J. 08904***

Год 13 | Сакавік, 1987 | Нр. 1(45)

## МАСКОЎСКІ АКУПАЦЫЙНЫ РЭЖЫМ СУПРАЦЬ БАЦЬКІ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

Стары сялянскі дом у Кушлянах стаўся аб'ектам увагі Беларусаў, што змагаюцца за вольнасьць народу, свабоднае разьвіцьцё нацыянальнае культуры, пашырэньне сфэры ўжываньня й росту беларускае мовы. Фактычна дом гэны, у якім некалі жыў Францішак Багушэвіч, зрабіўся аб'ектам канфлікту між маскоўскім акупацыйным рэжымам а беларускімі нацыянальнымі сіламі, што хочуць бачыць сваю бацькаўшчыну ў росквіце ейнае культуры свабоднай і раўнапраўнай між іншых народаў...

Із вестак з савецкае беларускае прэсы відаць, што дом руйнуецца: падгнілі ніжнія вянцы зрубу, цячэ страха, суцэльнага рамонту патрабуе нутро й вялікая вэранда... І ўжо каторы год стары селянін, "нязьменны вартаўнік сядзібы" Міхал Ляпеха абівае парогі партыйнай бальшавіцкай бюракратычнай буржуазіі, дамагаючыся, каб адрамантавалі запушчаную хату, каб зрабілі ў ёй літаратурны музэй паэты й пісьменьніка, бо-ж 150-я ўгодкі нараджэньня Багушэвіча ў 1990 годзе ўжо не за гарамі...

Хоць трывожныя выказваньні пра лёс гістарычна-літаратурнага помніка чуваць шырока й далёка, акупацыйны рэжым як-бы аглох. Некаторыя культурныя дзеячы падазраюць, што ўсё тут наўмысна заплянавана; пачакаем, маўляў, пакуль хата разваліцца...

Ведаючы бальшавіцкую пільнасьць стаўляньня помнікаў сваім ідалам, ды іхную ахову памятных мясьцінаў розных ільічоў і фэліксаў, няма сумлеву, што акупацыйны рэжым прывязвае вялікую вагу да дому ў Кушлянах і да ягонага выдатнага ў беларускай гісторыі калішняга гаспадара. Акупанту залежыць каб і дом і самога Багушэвіча, калі нельга зусім зруйнаваць ці аддаліць у нябыт, дык прынамся пастарацца зацьміць. Ідзе тут пра аграмадную стаўку: самую душу акупаванага й паняволенага народу.

Працэс русіфікацыі Беларусі, — як відаць із прэсы падчас дазволенай Гарбачовым "галоснасьці" — так заавансаваны, што шматлікія Беларусы пачынаюць рабіць агульны алярм, што беларускай мове, а за ёй беларускай культуры, пагражае нямінучая сьмерць. Шырокая і ўсеабдымная хваля расейшчыны, якая падтрымліваецца й пашыраецца бюракратычнай бальшавіцкай буржуазіяй з акупацыйнага каляніяльнага рэжыму, залівае ўсю зганьбаваную паняволеную краіну. Растуць пакаленьні, якія зьнішчаць і тыя аазы беларускасьці ў чужынцамі створанай пустыні, некалі дбайна аснаваныя й культываваныя геніямі творчага духу, а між імі найпераш і аазу Багушэвіча.

Ня гледзячы на тое, што ў савецкіх школьных падручніках і іншых псэўданавуковых працах Францішак Багушэвіч прадстаўлены як і "дэмакрат", і "рэаліст", і той, што "аддаваў перавагу сацыяльным праблемам", гэты "мужыцкі адвакат" сяньня, як ніколі, небясьпечны для маскоўскага акупацыйнага рэжыму. Чаму?

Багушэвіч пачынаў ад беларускай мовы, ад уваскрашэньня нацыянальнае душы. Прыгадайце :

**»Не пакідайце мовы нашай, беларускай, каб ня ўмерлі!**

заклікаў ён у сваёй праграмнай прамове да "Дудкі Беларускай".

**»Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная».**

Акупацыйны маскоўскі рэжым робіць усё, каб паняволены беларускі народ не даведаўся пра запраўднага Францішка Багушэвіча — тытана вялікага духу, культуры й веры ў нацыянальную будучыню, пра таго, які й цяпер ёсьць сымбалем супраціву чужой навале. Ён жыцьцё аддаў за разьвіцьцё беларускае мовы й культуры, за нацыянальнае адраджэньне, за сацыяльны дабрабыт. А гэта ўсё вяло да самавызначэньня, да будовы свае незалежнае дзяржавы, да вызваленьня зь ярма найбольшага каляніяльнага варвара дваццатага стагодзьдзя, што вымардаваў мільёны нашых найбольш таленавітых і адданых народу сыноў і дачок, а цяпер русіфікацыяй намагаецца зусім зьнішчыць і рэшту беларускага народу.

*Каб паказаць паняволенаму народу запраўднага і ў поўнай сваей творчай велічы выдатнага Францішка*

# КОШТ САВЕЦКАЕ ІМПЭРЫІ

Савецкі Саюз — ня першая ваенная імпэрыя ў гісторыі сьвету. Магутныя й вялікія імпэрыі існавалі й раней. Усе яны ў канчальным выніку распаліся. Прычыны іхнага распаду добра вывучаныя. Адзін з разьдзелаў дасьледваньня карпарацыі Рэнд аналізуе агульныя заканамернасьці, уласьцівыя мінулым імпэрыям, а таксама тыя фактары, якія адрозьніваюць іх ад імпэрыі савецкай.

Гэтак, у адрозьненьне ад усіх імпэрыяў мінулага, савецкая імпэрыя з эканамічнага гледзішча абсалютна нярэнтабельная. Яна ня толькі не дае прыбыткаў, але, наадварот, прыносіць вялікія страты. Гэтыя сумарныя імпэрскія страты складаюць цяпер ня менш як 20% валавога нацыянальнага прадукту Савецкага Саюзу. Гэта значыць, што кажны пяты зь ліку занятых у Савецкім Саюзе працуе толькі на ўтрыманьне й пашырэньне імпэрыі.

Якія-ж прычыны ўпадкаў імпэрыяў мінулага? Дасьледнікі карпарацыі Рэнд сьцьвердзілі, што галоўнай прычынай распаду імпэрыяў быў якраз непамерны рост выдаткаў. Калі затраты на падтрымоўваньне імпэрыі станавіліся непасільным цяжарам для мэтраполіі, пачынаўся, як прынята гаварыць, дэмантаж імпэрыі. Дасьледнікі Рэнда вылучаюць некалькі асноўных фактараў, якія выклікалі рэзкае павялічэньне выдаткаў імпэрыяў мінулага.

Папершае, гэта канфлікты зь іншымі краінамі ў ходзе пашырэньня імпэрыі. Гэты фактар надзвычай важны для аналізу пэрспэктываў савецкае імпэрыі, якая **увайшла ў канфрантацыю як з заходнім сьветам, так і з** камуністычным Кітаем. Гэтая катэгорыя выдаткаў будзе, бясспрэчна, расьці, бо Савецкі Саюз намагаецца прадаўжаць экспансію.

Другім важным фактарам зьяўляюцца выдаткі на ўтрыманьне парадку ў імпэрыі. У савецкай імпэрыі дзеяньне гэтага фактару відавочнае. Народы краінаў Усходняй Эўропы ўжо няраз намагаліся рабіць супраціў. Узброенае паўстаньне ў Будапэшце, спроба дэмакратызаваць камуністычную сыстэму ў Чэхаславаччыне, польская 'Салідарнасьць', гэраічнае змаганьне афганскага народу — гэта толькі найбольш яскравыя прыклады супраціву падкантрольных народаў.

Дзеля таго, што ціск гэтых фактараў будзе, бясспрэчна, узрастаць, выклікаючы далейшы рост выдаткаў, важна ўстанавіць дзе тая мяжа, пасьля якое эканоміка мэтраполіі ня здолее больш адольваць накладаныя на яе нагрузкі.

Практыка імпэрыяў мінулага дазваляе зрабіць некаторыя высновы. На думку дасьледніка карпарацыі Рэнд, мяжа эканамічных магчымасьцяў савецкай эканомікі лепш за ўсё выяўляецца з практыкі Рымскай і Японскай імпэрыяў. Рымская армія на пачатку заваёваў налічвала каля ста тысяч асобаў, а ў эпоху распаду імпэрыі яна павялічылася да 500 тысячаў. Фінансаваньне гэтай арміі сталася непасільным для мэтраполіі, што й было адной з галоўных прычынаў упадку імпэрыі. У падобным становішчы можа неўзабаве апынуцца й Савецкі Саюз, выдаткі якога на армію растуць вельмі хутка. Гэта, бясспрэчна, можа давесьці да краху савецкай эканомікі.

Шмат агульных рысаў выяўляецца пры параўнаньні савецкай і былой японскай імпэрыяў. Абедзьве яны характэрныя хуткай экспансіяй, адносна слабой эканамічнай базай і значнай роляй арміі. У пэрыяд найбольш агрэсіўнай экспансіі, паміж дзьвюма сусьветнымі войнамі, імпэрскія выдаткі Японіі складалі 8% валавога нацыянальнага прадукту. Савецкія-ж імпэрскія выдаткі — без ваенных затратаў — дасягнулі ўжо 10% валавога нацыянальнага прадукту. Савецкія *ваенныя* выдаткі на працягу апошніх год складалі 15% валавога нацыянальнага прадукту. Калі адлічыць зь іх тую частку, якая можа разглядацца як нармальныя выдаткі на абарону (у заходніх краінах яны складаюць у сярэднім 5% валавога нацыянальнага прадукту), дык выявіцца, што рэшту — каля 10% — трэба залічыць да *імпэрскіх* выдаткаў, якія забясьпечваюць утрыманьне парадку ў імпэрыі і ейную далейшую экспансію.

Такім чынам агульныя імпэрскія выдаткі Савецкага Саюзу складаюць цяпер ня менш, як 20% валавога нацыянальнага прадукту. Гэта значыць, што савецкая эканоміка нясе цяжар у два разы большы за тую нагрузку, якую здольная была вытрываць эканоміка Японіі — найбольш агрэсіўнай імпэрыі мінулага.

Вынікі гэтага відавочныя. Тэмпы эканамічнага росту Савецкага Саюзу за апошнія 15 гадоў панізіліся з 7% да 3%. Эканамічны аналіз паказвае, што ў бліжэйшыя гады тэмпы росту савецкай народнай гаспадаркі няўхільна панізяцца да нуля. А гэта значыць, што савецкая эканоміка ўжо ня здолее фінансаваць выдаткі на савецкую імпэрыю навет у адносна спакойныя часы.

*лм — уц* ..........................................................




*У сёмыя ўгодкі маскоўскай агрэсіі ў Афганістане, у Тароньце, летась 26-га сьнежня, з удзелам паняволеных Масквой народаў, адбылася вялікая дэманстрацыя. На здымцы — дэманстранты на вуліцы гораду. Здымка К. Акулы*

## АКУПАЦЫЙНЫ РЭЖЫМ . . .

*Багушэвіча, маскоўскі акупацыйны рэжым мусіў-бы падпісаць акт сьмерці сваёй варварскай русіфікацыйнай палітыцы.*

Вось чаму антынародная бальшавіцкая маскоўская й мясцовая партыйная буржуазія будзе намагацца, каб зацьміць надыходзячыя 150-я ўгодкі нараджэньня геніяльнага сына Беларускага Народу, а — наадварот — зробіць усё, каб стварыць ўражаньне, што "бацька беларускага нацыянальнага адраджэньня" быў калі ня зусім літаратурным пігмэем, дык прынамся невялікай пешкай у беларускай новай літаратуры.

*К. Акула*

# ДА 525-х УГОДКАЎ НАРАДЖЭНЬНЯ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ЛІТОЎСКАГА АЛЯКСАНДРА КАЗІМЕРАВІЧА

(*Заўвага: 525 гадоў мінула летась у жніўні*)

Выкрыўляньне гісторыі беларускага народу савецкай гістарычнай навукай выяўляецца, як вядома, ня толькі ў хвальшаваньні гістарычных фактаў. Каб падагнаць пад афіцыйную канцэпцыю аб безьдзяржаўнасьці беларускага народу ў мінулым, закрэсьліўшы некалькі стагодзьдзяў ягонае гісторыі, савецкая гісторыяграфія ўжывае мэтад раўназначны хвальшаваньню. Гэта — замоўчваньне ня толькі нявыгадных для яе гістарычных фактаў і падзеяў, але й цэлых пэрыядаў у гісторыі Беларусі.

Гэтак, прыкладна, у першай абагульняльнай працы "Гісторыя БССР" у двух тамах, што выйшла ў 1954-58 гадох (другое яе выданьне выйшла ў 1961 г.), літаральна нічога ня сказана пра княжаньне вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Аляксандра Казімеравіча, ні пра характар гэтае эпохі.

У 1-м томе пяцітомнай "Гісторыі Беларускай ССР", які выйшаў у 1972-м годзе і ў якім распрацоўка гісторыі Беларусі эпохі Вялікага Княства Літоўскага ахапіла шырэйшае кола пытаньняў, імя яго згадваецца ўсяго толькі адзін раз. Гаворачы пра важную ролю, якую мела ў дзяржаўным кіраваньні гаспадарская рада (больш дакладна — "Паны-Рада"), на 169-й бачыне адзначаецца толькі, што: "Пры вялікім князі Аляксанды рада фактычна і юрыдычна нават пачала абмяжоўваць вялікакняжаскую ўладу. Бяз згоды рады вялікі князь ня мог вырашыць пытаньні зьнешняй палітыкі, выдаваць і зьмяняць законы, дараваць дзяржаўныя пасады, распараджацца фінансамі і гэтак далей". І гэта ўсё!

Аляксандар Казімеравіч княжыў ад 1492 да 1506 г., — усяго 14 гадоў. У гэным 14-гадовым пэрыядзе ў Вялікім Княстве Літоўскім адбылося шмат важных падзеяў. Аднак, і, ня гледзячы на гэта, у гэтым пяцітомным выданьні, у якім абагульненыя вынікі дасьледваньняў савецкіх вучоных зь гісторыі беларускага народу, праведзеных пасьля выхаду ў сьвет другога выданьня двухтомніка, на амаль трох з паловай тысячах бачынаў "Гісторыі Беларускай ССР", імя ягонае прыгадваецца ўсяго толькі адзін раз і то між іншым!

Праўда, у ўнівэрсальнай "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" вялікаму князю Аляксандру Казімеравічу прысьвечаны адмысловы артыкул. Апрача гэтага імя яго ўспамінаецца 9 разоў у сувязі зь іншымі гістарычнымі падзеямі. Але-ж БелСЭ — энцыкляпэдычны даведнік! Пяцітомнае-ж выданьне "Гісторыі Беларускай ССР", пры напісаньні якое выкарыстана шмат разнастайных архэалягічных матар'ялаў і пісьмовых крыніцаў, — ня толькі навуковая праца, у якой павінен быць адлюстраваны ўвесь гістарычны працэс беларускага народу, але й вучэбны дапаможнік для сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў рэспублікі! А гэта ўжо пытаньне пэдагагічнага характару!

Як вядома, у сувязі з 500-годзьдзем з дня нараджэньня беларускага першадрукара, вучонага, асьветніка, перакладчыка, пісьменьніка й культурнага дзеяча эпохі Адраджэньня доктара Францішка Скарыны, якое ў БССР будзе адзначацца толькі ў 1990 годзе(1), выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя імя Пятруся Броўкі" рыхтуе энцыкляпэдычны даведнік "Францішак Скарына". Выданьне гэтае мае на мэце ўсебакова паказаць дзейнасьць Скарыны, пазнаёміць чытача з эпохай, у якой ён жыў. Пры складаньні слоўніка рэдактары павінны ўлічваць, што даведнік "Францішак Скарына" павінен уключаць усе матар'ялы, зьвязаныя зь імем Скарыны, а таксама тыя, што адлюстроўваюць эпоху, у якую ён жыў.

Паводля савецкіх крыніцаў, Скарына нарадзіўся "каля 1490 году"(2). Памёр "каля 1551 году". У нашым артыкуле аб удакладненьні даты й году нараджэньня й сьмерці Ф. Скарыны (гл. "Зважай", нр. 3(43), 1986 г.), аспрэчваючы гэтыя цьверджаньні савецкай афіцыйнай гістарыяграфіі адносна даты нараджэньня й сьмерці Скарыны, мы паказалі,што найбольш праўдападобнай датай нараджэньня трэба лічыць 6-га сакавіка 1486 году. І што памёр Скарына ў 1540 годзе, але не раней 10-га чырвеня таго году.

Але, як-бы там ня было, Францішак Скарына нарадзіўся яшчэ пры Казімеру Ягайлавічу. Яго дзяцінства й навука ў Кракаўскім унівэрсытэце, дзе ён у 1506 годзе атрымаў ступень бакалаўра філязофіі, прайшлі падчас княжаньня вялікага князя Аляксандра Казімеравіча. Рэшта-ж ягонага жыцьця — дальшая навука, дактарат і ўся ягоная ўсебаковая дзейнасьць — прыпадае на час княжаньня Жыгімонта І-га Старога а калі згадзіцца з датай сьмерці, якую падаюць савецкія даведнікі, — "каля 1551 году", — дык і на час княжаньня Жыгімонта ІІ-га Аўгуста.

А гэта даволі доўгі пэрыяд у гісторыі Беларусі, багаты рознымі падзеямі, пэрыяд прадстаўлены аж некалькімі дзяржаўнымі дзеячамі, якіх нельга ня браць пад увагу пры апрацоўцы матар'ялаў даведніка й адборы тэрмінаў, бо праектаваная назва кнігі — "Скарына і яго час".

Але вернемся да самога вялікага князя Аляксандра Казімеравіча і ягонае эпохі. Сын Казімера 4-га і ўнук Ягайлы, Аляксандар нарадзіўся 5-га жніўня 1461 году ў Кракаве. Вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага ён быў выбраны адразу пасьля сьмерці бацькі 7-га чырвеня 1492 году. Выбары адбыліся на Горадзенскім сойме. Прычыны таго, што быў выбраны Аляксандар, а ня хто іншы, трэба шукаць у становішчы, у якім тады апынулася Вялікае Княства Літоўскае. Справа ў тым, што ў 1492-м годзе, калі памёр Казімер Ягайлавіч, Вялікае Княства Літоўскае знаходзілася ў стане вайны з Маскоўшчынай. Адхіленьне-ж кандыдатуры Аляксандра прывяло-б і да адкрытае вайны з Польшчаю.

Каб знэўтралізаваць польскую небясьпеку, Вялікае Княства Літоўскае пачало перамовы з Маскоўшчынай, жадаючы на некаторы час апазьніць зь ёю канфлікт. Перамовы праваліліся і, выкарыстоўваючы цяжкое становішча Вялікага Княства Літоўскага, неўзабаве Маскоўшчына абвесьціла яму вайну. Гэта не

паўстрымала ВКЛ ад выбару, незалежна ад Польшчы, свайго вялікага князя. Бачачы гэтую рашучасьць, Палякі таксама схіляюцца да кандыдатуры Аляксандра, жадаючы каранаваць яго на польскага караля. Апынуўшыся перад такой небясьпекай, нашы продкі, якія хацелі зусім унезалежніцца ад Польшчы, змушаюць Аляксандра афіцыйна зрачыся польскае кароны на карысьць свайго брата Яна-Альбрэхта, што Аляксандар і зрабіў.Такім чынам, не зважаючы на пратэсты Палякаў, Аляксандар стаўся незалежным ад нікога гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага.

У вайне з Маскоўшчынай, ня маючы ніводнага хаўрусьніка, ВКЛ усётакі не жадала поўнага разрыву з Польшчай. Яно імкнулася падпісаць зь ёю саюз дружбы, які забавязваў-бы два бакі дапамагаць адзін аднаму змагацца з супольнымі ворагамі, у тым ліку і з Маскоўшчынай, якая, ажыцьцяўляючы сваю палітыку гэтак званага "узьяднаньня рускіх зямель", пачала агрэсію супраць ВКЛ. У працэсе перамоваў выявілася, аднак, што Польшча сваю ваенную помач у вайне з Маскоўшчынай пачала ўзалежніваць ад прызнаньня Вялікім Княствам Літоўскім актаў Крэўскае й Гарадзельскае вуніяў. З гэтае прычыны кіраўнікі ВКЛ на некаторы час наагул парвалі ўсялякія зносіны з Польшчай ды зноў пачалі перамовы з Маскоўшчынай, якія й прывялі да падпісаньня замірэньня ў лютым 1494 году.

Сувязі й перамовы з Польшчай узнавіліся ўканцы 1495 году. Вымагала гэтага, папершае, новая небясьпека на поўдні для абедзьвюх дзяржаваў з боку Крымскага ханства й Турцыі, а падругое, жаданьне ВКЛ нейкім чынам атрымаць польскую помач у новай вайне з Маскоўшчынай, якую яны лічылі няўхільнай. І гэтым разам перагаворы з Польшчай ня далі нічага дадатнага апроч таго, што згадзіліся на супольную ваенную актва й Турцыі, а падругое, жаданьне ВКЛ нейкім чынам атрымаць польскую помач у новай вайне з Маскоўшчынай, якую яны лічылі няўхільнай. І гэтым разам перагаворы з Польшчай ня прынесьлі нічога станоўчага, апроч таго, што была дасягнутая згода ажыцьцявіць супольную ваенную акцыю супраць Крымскага ханствыа.

З прычыны ўзаемных разыходжаньняў, гэтая акцыя, якая адбылася ў 1497 годзе, зусім праваліласа. У выніку пачаліся новыя перагаворы паміж ВКЛ і Польшчаю, якія закончыліся падпісаньнем у 1499 годзе новага, вельмі важнага для ВКЛ, акту. Паміж Літвой і Польшчай быў падпісаны ваенна-абаронны саюз — хаўрус паміж раўнапраўнымі й незалежнымі дзяржавамі. Новы дагавор ануляваў раней накінутыя акты Крэўскае й Гарадзельскае вуніяў. У справе выбараў вялікага князя літоўскага й караля польскага гэты акт таксама касаваў ранейшыя, хоць ужо й няжыцьцяздольныя дагаворы. Абодва бакі забавязваліся ня ўмешвацца як у выбары вялікага князя, гэтак і ў выбары польскага караля. Такім чынам славутая Крэўская вунія была скасаваная ня толькі практычна, але й юрыдычна. Усе гэтыя прыгаданыя факты сьветчаць пра нацыянальна-палітычную сьвядомасьць і пра патрыятызм дзяржаўных прадстаўнікоў ВКЛ, якія не жадалі падпарадкоўвацца ні Польшчы, ні Маскоўшчыне.

Праўда, і пасьля падпісаньня гэтага абароннага саюзу ВКЛ не атрымала ад Польшчы ніякае ваеннае помачы ў сваім змаганьні з агрэсыўнай Маскоўшчынай. У час гэтага змаганьня якраз памёр кароль Польшчы Ян-Альбрэхт. Вялікі князь Аляксандар быў выбраны на караля Польшчы. Палякі выкарысталі цяжкое становішча ВКЛ і запрапанавалі новыя, вельмі цяжкія для яго ўмовы вуніі. Вунія тая, вядомая як Мельніцкі пакт, была падпісаная 23-га кастрычніка 1501 году. І таму, калі 19-га жніўня 1506 году памёр вялікі князь Аляксандар, нашыя продкі адмовіліся ехаць на агульны сойм, выбіраючы на ўласным і бяз згоды з Палякамі, сойме на вялікага князя ВКЛ брата Аляксандра, Жыгімонта, званага Першым або Старым, які, як вядома, панаваў да 1548 году

Змаганьне супраць маскоўскае агрэсіі й за поўную незалежнасьць ад Польшчы — гэта толькі дзьве, праўда, галоўныя рысы панаваньня вялікага князя Аляксандра ў Вялікім Княстве Літоўскім. Не забывайма таксама, што ў 1506 годзе яго войска, на чале зь Міхалам Глінскім, атрымала выдатную перамогу пад Клецкам над крымскімі татарамі, якія рабілі рабаўніцкія набегі на украінскія й беларускія землі, карыстаючыся занятасьцю ВКЛ вайной з Маскоўшчынай; што за яго княжаньня пашыраецца права гарадоў на самакіраваньне: магдэбурскае права атрымалі тады Высокае, Полацак, Менск, Браслаў, Ваўкавыск і іншыя беларускія гарады; што пры ім адбываюцца вялікія зрухі ў культурным жыцьці Беларусі, ствараецца глеба для пашырэньня гуманізму і рэфармацыйнага руху, пачынае істотна зьмяняцца характар літаратуры беларускага народу, у якую пачынаюць пранікаць і празь яе пашырацца ў масах рэфармацыйныя і гуманістычныя ідэі. Думаем, што ўжо толькі гэта заслугоўвае на тое, каб вялікаму князю Аляксандру Казімеравічу і ягонай эпосе было прысьвечана беларускай гістарычнай навукай больш чым дагэтуль увагі.

*Язэп Барэйка*

## ЛЯ ВЫТОКАЎ ЛЕНІНСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПАЛІТЫКІ

Заснавальнік першае ў сьвеце дзяржавы "работнікаў і сялян" Ленін, каб зьберагчы старую Маскоўскую імпэрыю, якая ў 1917 г. апынулася перад небясьпекай поўнага развалу, ды замацаваць у ёй сваю ўладу, выкарыстаў цэлы арсэнал дэмагагічных і хвальшывых лёзунгаў, сярод якіх на першым месцы фігураваў прынцып права народаў на самавызначэньне. Як ведама, зь цягам часу прынцып гэты ў інтэрпрэтацыі Леніна стаўся асноваю т. зв. "ленінскай нацыянальнай палітыкі". Таму ня будзе лішнім спыніцца крыху шырэй на гэтым кардынальным пытаньні. Матар'ялы для гэтага артыкулу зачэрпнулі мы з працы шырокавядомага на Захадзе гісторыка й пісьменьніка Абдурахмана Аўтарханава "Апошняя імпэрыя". Паводля нацыянальнасьці прафэсар Аўтарханаў — Чэчэнец. Да

---

1. Гл. В. Душыневіч: "Юбілей Скарыны. Калі ён будзе?" Ліст у рэдакцыю "ЛіМ", нр. 41(3347) з 10.Х.1986, б. 12.

2. Пра тое, што Скарына нарадзіўся ў 1486 годзе. гаворыць і праф. Я. Няміроўскі ў "Памятных кніжных датах" (Масква) і ў "Книжном обозрении". Гл. "ЛіМ" за 10.Х. 86.

вайны ён быў высокапастаўленым працаўніком ЦК партыі. У 1937 г. быў арыштаваны й абвешчаны "ворагам народу" Пяць год пазьней ён быў, аднак, вызвалены, а ў 1943 годзе апынуўся на Захадзе, дзе ён стаўся вядомым сваімі кнігамі "Тэхналёгія ўлады" й "Паходжаньне партакратыі" якія й дасюль уважаюцца клясычнымі дасьледваньнямі фэномэну бальшавізму.

Дэмакратычнае права нацыяў на самавызначэньне гэткае-ж старое,як старая і сама дэмакратыя. Як ідэя і практычны прынцып яно ўжываецца пачынаючы ад 16-17 стагодзьдзяў. Вялізарны штуршок руху нацыянальнай незалежнасьці далі дзьве гістарычныя падзеі: у 1775-1783 гадох гэтак званая "нацыянальная рэвалюцыя" ў Амэрыцы і ў 1789-м годзе Вялікая француская рэвалюцыя ў Эўропе. Якраз ад таго часу, уласна кажучы, і пачалася эпоха стварэньня сучасных вялікіх і малых нацыянальных дзяржаваў. Ад таго часу й само "права нацыяў на самавызначэньне" становіцца рухавіком нацыянальна-вызвольных рухаў і агульнапрызнаным прынцыпам заходняй дэмакратыі.

У сусьветным сацыялістычным руху права народаў на самавызначэньне было ўпяршыню *згаданае* на Лёнданскім кангрэсе Другога Інтэрнацыяналу ў 1896 г. такім чынам: **»Кангрэс абвяшчае, што ён стаіць за поўнае права самавызначэньня ўсіх нацыяў, і выказвае сваю спагаду рабочым усякай краіны, якая пакутуе ў сучасны момант пад ярмом ваеннага, нацыянальнага й іншага абсалютызму«.**

У праграму РСДП дамаганьне права на самавызначэньне нерасейскіх народаў царскай імпэрыі было ўключана на другім зьезьдзе партыі ў 1903 г. у тым-жа Лёндане.

Знаёмячыся з багатай савецкай літаратурай у галіне тэорыі і гісторыі нацыянальнага пытаньня, чытач ніколі не даведаецца двух элемэнтарных фактаў, а менавіта: папершае, права народаў на самавызначэньне зьяўляецца агульнапрызнаным прынцыпам дэмакратыі наагул; падругое, у расейскі сацыялістычны рух гэты прынцып унесьлі не бальшавікі й Ленін,а меншавікі й іхныя лідэры Пляханаў і Мартаў. Заслугі-ж Леніна ў дадзеным пытаньні ляжаць на зусім іншай плошчы — у антынацыянальнай інтэрпрэтацыі права народаў на самавызначэньне, і ў запраўды майстэрскім выкарыстаньні нацыянальнага пытаньня для стратэгічных мэтаў на шляхох да ўлады.

Што азначае права на самавызначэньне, Ленін усьведамляў сабе вельмі добра. У сваёй працы "Аб праве нацыяў на самавызначэньне" ён пісаў: "Калі мы хочам зразумець значэньне самавызначэньня нацыяў, ня гуляючы ў пэрыядычныя дэфініцыі, не ствараючы абстрактных вызначэньняў, а разглядаючы гістарычна-эканамічныя ўмовы нацыянальных рухаў, дык мы няўхільна прыйдзем да высnаву: пад самавызначэньнем нацыяў разумеецца дзяржаўнае адлучэньне іх ад чужанацыянальных калектываў, разумеецца стварэньне самастойнай нацыянальнай дзяржавы".

А ці гатовы быў сам Ленін, каб дазволіць нерасейскім народам выйсьці з Расейскай імпэрыі, калі ён прыйдзе да ўлады ў Расеі? Бязумоўна —**не.** Наадварот — калі амаль усе нерасейскія народы пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі, карыстаючыся правам на самавызначэньне, выйшлі з імпэрыі, дык Ленін вярнуў іх назад сілай зброі. Фактычнае выкарыстаньне права на самавызначэньне Ленін прызнаваў за народамі любых іншых імпэрыяў — Брытанскай, Аўстра-вугорскай, Атаманскай, — але ніяк не за народамі Расейскай імпэрыі.

Ленін навет вынайшаў у нацыянальнай палітыцы такі рафінаваны тактычны хітрык, да якога не дадумаўся яшчэ ніводзін сучасны макіявэліст: Ленін правёў сваеасаблівы падзел працы паміж сваймі прыхільнікамі ў партыі. Ён палягаў у тым, што расейскія бальшавікі павінны былі прапаведваць "права нерасейскіх народаў на самавызначэньне", а бальшавікі нерасейскай нацыянальнасьці, наадварот, павінны былі падкрэсьліваць права нерасейскіх народаў "далучыцца" да Расеі. Калі-ж Леніну вытыкалі гэтую падвойную гульню ў нацыянальным пытаньні, ён спакойна адказваў: "Людзі, якія ня ўдумаліся ў пытаньне, знаходзяць 'супярэчлівым', каб сацыял-дэмакраты нацыяў, якія прыгнятаюць, дамагаліся 'свабоды адлучэньня', а сацыял-дэмакраты прыгнечаных нацыяў — 'свабоды злучэньня'. Але невялікі роздум паказвае, што *іншага* шляху да інтэрнацыяналізму й зьліцьця нацыяў, іншага шляху да гэтай мэты ад дадзенага становішча няма й быць ня можа".

У гэтым тэзісе "зьліцьця нацыяў" якраз і палягае запраўдная й канчальная мэта Леніна. Ён хоча зьліць нерасейскія народы з расейскім, каб штучна стварыць адзін народ з адной мовай. Ленін так і пісаў: "Разьмежаваньне нацыяў у межах адной дзяржавы шкоднае, і мы, марксісты, імкнёмся зблізіць і зьліць іх". І яшчэ: "Марксізм няпрымірэнчы з нацыяналізмам, навет хай ён сабе будзе найбольш 'справядлівы'... Марксізм высоўвае на месца ўсякага нацыяналізму — інтэрнацыяналізм, зьліцьцё ўсіх нацыяў у вышэйшым адзінстве". Зацытуем і яшчэ адно месца: "Мэтай сацыялізму зьяўляецца ня толькі зьнішчэньне раздробленасьці на дробныя дзяржавы..., ня толькі збліжэньне нацыяў, але й зьліцьцё іх".

Хіба хопіць цытатаў: мы бачым поўную рашучасьць Леніна, пасьля ажыцьцяўленьня свайго пляну сусьветнай рэвалюцыі, стварыць адзіную інтэрнацыянальную супольнасьць людзей з адной ці, можа, зь дзьвюма мовамі. Вось ягонае цьверджаньне адносна гэтага: "Сусьветнай мовай будзе можа англійская, а можа, плюс, руская".

Ужо адсюль ясна, што для Расеі й нерасейскіх народаў ейнай імпэрыі адзінай мовай павінна стацца расейская. Інакш кажучы, Ленін быў за асыміляцыю нерасейскіх народаў у расейскім народзе, за гэткую палітыку русыфікацыі, ад якое адмовілася навет царская Расея, прынамся пачынаючы ад Кацярыны 2-й.

Аднак усё гэта тычылася далёкай стратэгічнай мэты — пасьля перамогі марксізму ў Расеі і ў сусьветным маштабе. А пакуль-што трэба было распрацаваць гнуткую тактыку выкарыстоўваньня нацыянальных імкненьняў прыгнечаных народаў якраз супраць іхнай канчальнай мэты — стварэньня незалежных дзяржаваў, — на карысьць уласнай стратэгіі.

Будучы большым вялікадзяржаўнікам, чым усе расейскія цары разам узятыя, і большым імпэрыялістам, чымся любы імпэратар у гісторыі, Ленін, аднак, ня быў расейскім шавіністам. Гэта было ягонай калясальнай асабістай перавагай як палітычнага дзеяча ў шматнацыянальнай дзяржаве. Ягонае першае

Палітбюро на шляхох да рэвалюцыі складалася зь сямёх асобаў, зь якіх два Расейцы (Ленін і Бубнаў), чатыры Жыды (Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і Сакольнікаў) і адзін Грузін (Сталін). Знаходзячыся ўжо пры ўладзе, ён заўсёды ваяваў з расейскімі шавіністамі,якія сваймі дзеяньнямі *шкодзілі* ягоным плянам утрыманьня маскоўскай імпэрыі, а на ейнай базе — стварэньня й сусьветнай савецкай імпэрыі.

Мы ведаем з дакумантаў 20-га зьезду КПСС, што да гэтых расейскіх шавіністаў ён залічаў і нерасейскіх лідэраў бальшавізму — Сталіна, Дзяржынскага і Арджанікідзэ. Ленін хоча, дзе гэта магчыма, унікнуць *гвалту* ў працэсе зьліцьця нацыяў ці ператварэньня расейскай мовы ў адзіную мову ў новай дзяржаве. У гэтым дачыненьні, як ідэал, Леніну выдаюцца Злучаныя Штаты Амэрыкі. Ён падае статыстыку розных народаў у Амэрыцы, апісвае мірны працэс стварэньня адзінай амэрыканскай нацыі з адзінай англійскай мовай і прыходзіць да гэткай высновы: "Хто не заграз у нацыяналістычных забабонах, той ня можа ня бачыць у гэтым працэсе асыміляцыі нацыяў капіталізмам найвялікшага гістарычнага працэсу, разбурэньня нацыянальнай закарузласьці розных мядзьведжых вуглоў — асабліва ў адсталых краінах, наводля Расеі", — пісаў Ленін у сваёй працы "Аб нацыянальна-каляніяльным пытаньні".

Ленін узяў выразна няўдалы прыклад, параўноўваючы непараўнальныя гістарычныя працэсы. Таму, заміж добрасумленнага аналізу, атрымалася прапагандовая падтасоўка фактаў і хвальшаваньне гісторыі. Амэрыку, як дзяржаву, стварылі розныя народы Эўропы і часткова Азіі, што дабраахвотна перасяліліся туды. Расея-ж стварылася, як імпэрыя, з далучаных да яе, ці падбітых чужых народаў, — прычым шмат якія з гэтых народаў культурна, рэлігійна й гістарычна былі старэйшымі за адносна маладую расейскую нацыю. Прыняцьцё адзінай ангельскай мовы для амэрыканскай нацыі было працэсам стыхійным і дабраахвотным, тады як у Расеі стварыць адзіную мову для ўсіх было-б магчыма толькі штучна, з дапамогай простай або ўскоснеай русіфікацыі нерасейцаў. Ленін ведаў гэта ня горш за нас. Ён ведаў таксама, што прымусовая русіфікацыя можа мець небясьпечныя вынікі ў сэнсе паскарэньня цэнтрабежных сілаў у ягонай будучай сацыялістычнай дзяржаве. Таму ён хоча ісьці па шляху мірнай, дабраахвотнай русіфікацыі. Ленін пісаў: "І мы, зразумела, стаім за тое, каб кажны жыхар Расеі меў магчымасьць навучыцца вялікай рускай мовы. Мы ня хочам толькі аднаго: элемэнту *прымусовасьці.* Мы ня хочам заганяць у рай дубінай".

Няма чаго казаць — вучні Леніна сяньня таксма абыходзяцца бяз прымусовасьці й дубіны. Але, — калі хочаш вывучыць тэхнічныя й дакладныя навукі, — вучыся парасейску; калі хочаш зрабіць кар'еру ў сваёй-жа нацыянальнай рэспубліцы — партыйную, дзяржаўную, навуковую — можаш ня ведаць роднай мовы, але павінен ведаць расейскую.

Пэўна-ж, важна й карысна ведаць расейскую мову, як і любую іншую, але калі штодзённы хлеб ад гэтых ведаў залежыць — дык гэта і ёсьць прымус.

У ніводнай з працаў Леніна ў пытаньнях тактыкі й стьратэгіі расейскай і сусьветнай рэвалюцыі ягонае віртуознае майстэрства макіявэліста не праяўляецца ў такой ступені, як у трактоўцы дэмакратычнага прынцыпу права народаў на самавызначэньне. У мастацтве маскавацъ свае запраўдныя стратэгічныя мэты туманам фразэалёгіі й слоўнай эквілібрыстыкі Ленін быў майстрам найвышэйшае клясы, але ў галіне ўтойваньня сваіх далёкасяжных мэтаў у нацыянальным пытаньні ён перасягнуў самога сябе. Рабіў ён гэта так умела, што навет гэткі вялікі майстар крывадушнасьціі, як Сталін, і той не заўсёды мог, казаў той, "раскусіць" запраўдныя намеры Леніна.

Калі коратка, але абсалютна дакладна сфармуляваць ідэю Леніна ў нацыянальным пытаньні, дык яна наступная: Ленін прызнае — і то ўмоўна — права нацыяў на самавызначэньне *пры капіталізьме,* але той-жа Ленін катэгарычна *адмаўляе права нацыяў на самавызначэньне пры сацыялізьме.* Вось клясычны прыклад стаўленьня да гэтага пытаньня Леніна да рэвалюцыі ў дачыненьні залежных народаў у Эўропе: разглядаючы гісторыю адзьдзяленьня Нарвэгіі ад Швэцыі ў і905-м годзе, Ленін пісаў, што гэткі выпадак магчымы пры капіталізьме толькі, як выключэньне, ды што яго асабіста цікавіць не самавызначэньне нарвэскай нацыі ад швэдзкай нацыі, а самавызначэньне там і тут нацыянальнага пралетарыяту. І вось ягоная выснова: ":У пытаньні аб самавызначэньні нацыяў нас цікавіць перш за ўсё й больш за ўсё самавызначэньне пралетарыяту ўнутры нацыяў".

Леніна цікавіць, як бачым, не стварэньне нацыянальных незалежных дзяржаваў, а стварэньне марксісцкіх нацыянальных дзяржаваў, залежных ад аднаго рэвалюцыйнага марксісцкага цэнтру. Яшчэ зырчэй вырысоўваецца марксісцкая вялікадзяржаўнасьць Леніна ў ягонай дыскусіі зь лідэрам польскіх марксістаў Розай Люксэмбург. У польскім каралеўстве, якое ўваходзіла ў склад Расейскай імпэрыі, у пачатку гэтага стагодзьдзя стварыліся дзьве сацыялістычныя партыі: Польская партыя сацыялістаў (ППС), і Польская сацыял-дэмакратычная партыя, узначальваная Розай Люксэмбург. У нацыянальным пытаньні ППС стаяла на пазыцыі бязумоўнай незалежнасьці й выхаду Польшчы із складу Расейскай імпэрыі. Польская сацыял-дэмакратычная партыя,як партыя артадаксальна-марксісцкая ленінскага тыпу, не прызнавала прынцыпу поўнай незалежнасьці, а дамагалася для Польшчы толькі аўтаноміі ў межах Расеі. Ленін катэгарычна адкідаў нацыянальную праграму ППС зь ейным дамаганьнем аб выхадзе Польшчы із складу царскай Расеі, а Розу Люксэмбург, у сутнасьці падтрымоўваючы ейную пазыцыю, ён ганіў толькі за ейную неэлястычнасьць у палітыцы, за тое, што яна ня хоча зразумець, што лёзунг самавызначэньня — ня мэта, а тактыка марксістаў.

Што можа быць больш цынічным? Ленін пісаў, што ён прызнае права ППС дамагацца выхаду Польшчы з Расейскай імпэрыі, але самога выхаду ён не прызнае! Навошта-ж, аднак, выстаўляць у праграме расейскіх марксістаў дамаганьне права нацыяў на самавызначэньнее, калі ты зьбіраешся змагацца ўсімі сіламі

супраць ягонага практычнага ажыцьцяўленьня? Адказ Леніна тут унікальны сваёй шчырасьцяй: "Прызнаньне права на адзьдзяленьне, — пісаў ён, — *зьмяншае*(гэтае слова падкрэсьленае Ленiным) небясьпеку распаду дзяржавы".

Гэткую фікцыйную "незалежнасьць" Ленін быў гатовы прызнаць навет Украіне. Вось што ён пісаў аб праве Украіны на стварэньне свае, незалежнае ад Расеі, дзяржавы: "Ці суджана Украіне стварыць самастойную дзяржаву, залежыць ад тысячы фактараў, невядомых загадзя. І, не жадаючы здагадвацца попусту, мы цьвёрда стаім на тым, што бясспрэчна: *права* Украіны на гэткую дзяржаву".

*вс – уц*

*( Заканчыньне ў наступным нумары)*

---

### *ПЕРШЫ БЛІН КОМАМ...*

*Як нашы чытачы, спадзяемся, ужо заўважылі, наш часапіс крыху зьмяніў свой выгляд. Ён цяпер набіраецца (друкуецца) кампютарнай машынай, што нам у будучыні дасьць магчымасьць лепшага выбару шрыфтоў, іх вялічыні й іншых графічных камбінацыяў. Але кажнае новае трэба ці то ўезьдзіць, ці абжыць, ці іншым чынам асвоіць. Так і з намі: асвойваем кампютар, а што гэты нянадта лёганькі працэс яшчэ незавершаны, відаць зь няроўных маргінэсаў шрыфту й іншага.*

*Мы ня лічылі патрэбным адкладаць выхад "Зважай" "з тэхнічных прычынаў", бо, як ведама – першы блін комам, а ў будучыні абяцаем асвоіць усе тайніцы нашага новага тэхнічнага памочніка ды выраўноўваць адпаведна розныя загалоўкі, шрыфты й калёнкі...*

К. Акула

*******************************************

### *МІКОЛА СЬВІДЭРСКІ АДЫЙШОЎ У ВЕЧНАСЬЦЬ*

22-га студзеня сёлета, на 66-м годзе жыцьця, у Сыднэі, Аўстраліі, памёр выдатны ўкраінскі культурна-грамадзкі й палітычны дзеяч Мікола Сьвідэрскі. Празь сястру Олю, выкладчыцу Сыднэйскага ўнівэрсытэту, жонку пакойнага Аркадзя Качана, сьв. пам. М. Сьвідэрскі быў зроднены зь Беларусамі, зьліжаны зь беларускай грамадою, якой многа памагаў, асабліва ў беларускай радыёпраграме ў Сыднэі.

У нядзелю 1-га лютага, у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце была адслужана, з удзелам Першага Ярарха БАПЦ архіяп. Мікалая, паніхіда па Нябожчыку.

Гэтым выражаем нашыя шчырыя спачуваньні радні Нябожчыка, а Яму — няхай сьніцца Вольная Украіна, якой аддаў свае найлепшыя сілы.

"Зважай".



Сьцяжная варта падчас паніхіды ў Тароньце

## ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ У ТАРОНЬЦЕ

Сьвята 66-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня адбылося тут у нядзелю 30-га лістапада летась.У царкве Сьв. Кірылы Тураўскага служыў Першы Ярарх БАПЦ архіяпіскап Мікалай. Із вынесенымі сьцягамі адслужылі паніхіду за загінуўшых у баёх за вольнасьць Беларусі змагароў.

Пасьля супольнага абеду, у залі акадэмію вяла старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч. Яна прывітала й гасьцей, а перадусім калішняга старшыню Рады БНР д-ра В.Жук-Грышкевіча й цяперашняга — д-ра Я.Сажыча. Абое выступалі з кароткімі прамовамі. На тэму сьвята гаварыў пiсьменьнік К.Акула, які зьвярнуў увагу прысутных, што да гэтага часу ніводзін беларускі асяродак на эміграцыі ня змог паставіць помніка Слуцкім Змагаром, — якраз *Слуцкім*— а не агульны помнік *Беларускім Змагаром.* Ён запрапанаваў пабудаваць такі помнік у нашым адпачынкавым цэнтры Слуцак, што ляжыць у вадлегласьці 170 міляў на поўначы ад Таронта.

### НЬЮ БРАНСВІК

Тут сьвяткавалі 29 і 30 лістапада.У сыботу, 29-га лістапада, група вэтэранаў удэкаравала магілы на могільніку ў Іст Бранcвік. На помніку Беларускім Гэроям, у прысутнасьці сьцяжной варты, злажылі вянок і прапяялі жалобны гімн "Сьпі пад курганам гэрояў". Вянок злажылі: Інж. Юрка Азарка — старшыня арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі й П. Кажура — старшыня адзьдзелу БАЗА ў Нью Джэрзі. Пасьля жалобнага гімну маёр С. Гутырчык сказаў кароткую прамову, а сп. Т. Супрун запрасіў прысутных на каву.

У нядзелю а гадз. 10-й у царкве Жыровіцкай Божай Маці адслужылі Сьв. Літургію й Паніхіду. Служыў мітр. прат. а. Карп Стар з удзелам вэтэранскай сьцяжной варты ды старшыняў беларускіх арганізацыяў.



*Пры помніку зь вянком, зьлева направа: лейт. П.Кажура, інж. Юрка Азарка, лейт. Ул.Машанскі, сярж. парадку Л.Шурак, лейт. А. Койка, Тамаш Супрун, маёр С.Гутырчык, лейт. М.Абрамчык*

А гадз. 1.45 папаўдні ў залі распачалося сьвята памятных угодкаў. Сход адчыніў маёр С.Гутырчык, камандзер ЗБАВ. Сяржант Парадку Лявон Шурак прачытаў прысягу'I pledge my allegiance' і Салют да Сьцягу ды прасьпявалі "Беларусь, наша Маці Краіна". Даклад на тэму дня, зрэдагаваны сяброўкай Саюзу Беларускай Моладзі, прачытаў яе муж інж. В. Русак. Даклад быў вельмі добра апрацаваны і ўзрушыў слухачоў да сьлёзаў. Ушанавалі хвілінай маўчаньня памяць загінуўшых і адыйшоўшых. З прамовамі выступалі сп.сп.: А.Міцкевіч — старшыня БАЗА на штат Нью Ёрк, ды П. Кажура — старшыня БАЗА штату Нью Джэрзі. Рангу лейтананта, пры помачы дыплёму, падпісанага старшынём Рады БНР, ген. др. Язэпам Сажычам, атрымаў Мікола Абрамчык. Цырымонію ўручэньня дыплёму правёў маёр С.Гутырчык.Адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн. Падзяка за падрыхтаваньне сталоў зь емінай належыцца Тамашу Супруну, Літвіне **Гутырчык і Аньне Супрун.** ***Сяргей Пчала***



## ЖАЛОБНЫ АБЕД

У першыя ўгодкі трагічнае сьмерці Аляксандра Корбута, летась 7 сьнежня паставілі яму надмагільны помнік, адслужылі паніхіду, а Вера Булат зрабіла ззмінальны абед. Паніхіду служыў а.А.Чарнішаў у Царкве Жыровіцкай Божай Маці, сьпяваў хор пад кіраўніцтвам Якуба Сапежынскага.

За абеднымі сталамі на залі гаспадарам быў сп. П. Кажура. Прамаўляў першым сп. П.П., прыяцель і блізкі сусед з бацькаўшчыны, а таксама старшыня ЗБАВ, які падчыркнуў заслугі А. Корбута, быўшага сакратара адзьдзелу ЗБАВ, што спраўна працаваў у падрыхтоўцы сьвяткаваньня 20-х угодкаў мабілізацыі БКА.

Сп-ня Вера Булат сказала,што выконваючы свае абавязкі, адведала братоў Корбута ў Беларусі, ды моцна дзякавала ўсім, што прыйшлі яшчэ раз аддаць яму пашану. На заканчэньне гаварыў а.А.Чарнішаў, падчыркнуўшы сваё задаваленьне тым, як Беларусы ўспамінаюць і шануюць памяць сваіх быўшых калегаў.

Аляксандар Корбут пахаваны на беларускім могільніку, дзе стаіць помнік Беларускім Гэроям.

*С.Пчала*

## Беларускім Вэтэранам, Суродзічам і нашым чытачом з нагоды сьвята 69-х угодкаў абвешчаньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі

*жадаем добрага здароўя й посьпехаўу працы на фронце змаганьня за вызваленьне паняволенай Бацькаўшчыны!*

"Зважай"

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У 69-я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ *віншую Камандзераў і Сяброў Згуртаваньня Беларуска Амэрыканскіх Вэтэранаў, і ўсіх Суродзічаў ды жадаю ім добрага здароўя й посьпехаў у прыватным жыцьці й змаганьні за вызваленьне Беларусі.*

**Жыве Беларусь!** Маёр С. Гутырчык, Старшыня ЗБАВ

## НАФАШЫСЬЦІЛІ АЙЦУ АЛЕСЮ

У нр. 48 за 28.11.1986 г. кадэбэшніцкай газэткі "Голас Радзімы" нехта цівун Вячаслаў Жакель, відавочна з дапамогаю адпаведных *органаў*, нафашысьціў нашаму выдатнаму рэлігійнаму й навуковаму дзеячу, Апостальскаму Візытатару для Беларусаў, сьвятару, дырэктару бібліятэкі й музэя Фр. Скарыны ў Лёндане, айцу Алесю Надсану. Між іншага ядавітага кадэбэшніцкага хламу, бальшавіцкі пісака упікнуў айца Надсана і ягонай, быццам... **амаральнасьцю.**

Калі перафразаваць радкі Сьвятога пісаньня: *зь якой крыніцы й што цячэ...*

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Да канца лютага сёлета на "Зважай" ахвяравалі: Аляксандра Протас — 20.00 дал., др. Раіса Жук-Грышкевіч — 5.00, др. Л.Трусэвіч — 34.75, Ю.Весялкоўскі — 10.00, др. В. Сянькевіч — 5.00, М.Сенька — 10.00, Ч.Найдзюк — 7.75, П.Г. — 34.75, Я. Гавеньчык (продаж) — 17.00, В.Акавіты (продаж) — 8.40, С.Гутырчык (продаж) — 60.75, С. Гутырчык — 13.50, Вера Булат — 27.00, Б.Даніловіч — 13.50, В.Русак — 13.50, Раіса Станкевіч — 13.50, А.Шукелойць — 13.50, Ю.Азарка — 13.50, А.Сільвановіч — 13.50, Ул.Машанскі — 7.75, П.Кажура — 13.50, А.Міцкевіч — 7.75, Алег Дубяга — 7.75, М.Тулейка — 7.75, А.Субота — 7.75, М.Абрамчык — 7.75, К.Акула — 20.00, А.Маркевіч — 5.00, Знаёмы (продаж) — 27.39, Аўген Кажан — 34.75, М.Пракопчык — 15.00. На лісту ў Тароньце ў сьвята Дня Гэрояў (зьбіраў А. Маркевіч) — 49.00.

*Усяго сабрана ахвяраў і падпіскі — 546.04 дал. Шчырае дзякуй!*